Год выданьня 66. № 617, Кастрычнік - Лістапад 2015 г. **Жыве Беларусь!**



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

Вітаем вас на старонках чарговага нумару нашай 65-гадовай газэты за кастрычнік -лістапад. Новы, 66 год свайго жыцьця газэта распачынае ў аптымістычным настроі. Мы ўрачыста адсьвяткавалі наш слаўны і паважны юбілей, пра што вы можаце прачытаць у гэтым выпуску, і гэта надало нам добрага настрою. Відавочна, што газэта мае падставы ганарыцца дасягненьнямі пройдзенага шляху, што яна і сёньня патрэбна беларускаму грамадзтву ў Амэрыцы. Але маем і троху адчуваньне суму і трывогі за будучыню. З наступам інтэрнэтнай эры моладзь не заўсёды разумее каштоўнасьць традыцыйнага друкаванага слова, не імкнецца падтрымаць выданьне газэты, як гэта рабіла старэйшае пакаленьне. А менавіта ад моладзі і залежыць будучыня нашага знанага перыёдыка, і хацелася б, каб яна брала прыклад са сваіх папярэднікаў у гэтай надзвычай важнай грамадзкай справе. Будзем спадзявацца на яе сталеньне і разам з тым узрастаньне пачуцьця адказнасьці за нашу нацыянальную беларускую справу.

У гэтым нумары адлюстраваны не толькі юбілейныя ўрачыстасьці, але й іншыя важныя падзеі, якія адбыліся цягам двух асеньніх месяцаў. Беларускае жыцьцё не запаволілася з надыходам халадоў: адзначылі нашы нацыянальныя сьвяты, амэрыканскі Дзень Падзякі, падтрымалі нашых украінскіх сяброў. Шмат увагі ў газэце надзелена асобным людзям, важным падзеям і датам у асабістым жыцьці амэрыканскіх беларусаў.

Ідзе да фінішу 2015 год, і гэты выпуск - апошні ў бягучым годзе. Нас чакаюць Калядныя і Навагоднія сьвяты. Рэдакцыя жадае вам, шаноўныя чытачы, пасьпяхова завяршыць усе справы адыходзячага году, у добрым настроі пачаць сьвяткаваць Каляды і сустрэць новы 2016 год сярод сваіх блізкіх і сяброў, а шмат каму і ў беларускай грамадзе. Гэтую сьвяточную тэму мы працягнем у наступным нумары нашай газэты.

Да сустрэчы ў новым годзе!

***Рэдакцыя***


*Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла*

# Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з нагоды "выбараў" прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь



*Мітынгі пратэсту ў Менску супроць фальсіфікацыі выбараў*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 году, заяўляе, што "прэзыдэнцкія выбары" ў Рэспубліцы Беларусь, праведзеныя 11 кастрычніка 2015 года, ня могуць лічыцца справядлівымі і дэмакратычным волевыяўленьнем беларускага народу, а іхныя вынікі ня маюць юрыдычнае сілы.

Рада БНР зьвяртае ўвагу на наступныя фактары:

- Адсутнасьць раўнапраўных умоваў для вядзеньня выбарчае кампаніі, у тым ліку інфармацыйная палітыка агульнанацыянальных дзяржаўных СМІ, якія на працягу выбарчае кампаніі выконвалі прапагандысцкія задачы на карысьць кандыдата А. Лукашэнкі;
- Непадкантрольнасьць і непадсправаздачнасьць цэнтральнай і мясцовых выбарчых камісій беларускаму грамадзтву;
- Цалкам не празрысты для назіральнікаў працэс падліку галасоў, асабліва ў ходзе датэрміновага галасаваньня, у якім, паводле афіцыйных вынікаў, узяло ўдзел больш за 36% выбарцаў;
- Агульная атмасфэра ў беларускім грамадзтве, якая склалася на працягу дваццаці гадоў аўтарытарызму і ўключае далейшы ціск на палітычныя і грамадзкія арганізацыі, ціск на недзяржаўныя СМІ, агульную адсутнасьць дэмакратычнага палітычнага працэсу ў краіне. Рада БНР адзначае, што вызваленьне палітычных вязьняў, зробленае напярэдадні выбараў, можа разглядацца толькі як першы крок да нармалізацыі палітычнай атмасфэры ў Беларусі.

Рада БНР робіць выснову, што грамадзянін Аляксандар Лукашэнка, які паводле афіцыйных вынікаў мае быць абвешчаны переможцам прайшоўшых "выбараў", надалей не зьяўляецца законна абраным прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Спасылаючыся на сваю заяву ад 7 ліпеня 2015 году, Рада БНР канстатуе, што Рэспубліка Беларусь надалей застаецца недэмакратычнай дзяржавай, дзе адсутнічае інстытуцыяналізаваная палітычная канкурэнцыя, а ўлада незаконна манапалізаваная групай людзей на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.

Рада БНР паўторна зьвяртае ўвагу на тое, што ніводныя выбары і ніводзін рэфэрэндум, праведзеныя ў Рэспубліцы Беларусь ад 1994 году, не адпавядалі дэмакратычным нормам, у тым ліку нормам, зацьверджаным у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншых заканадаўчых актах Рэспублікі Беларусь. Рада БНР падкрэслівае, што прынамсі з 1996 году ў Рэспубліцы Беларусь адсутнічаюць легітымна і законна сфармаваныя нацыянальныя заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы ўлады.

Рада БНР надалей заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь:

- Гарантаваць грамадзянам Беларусі дэмакратычныя правы і свабоды, замацаваныя ў тым ліку ў дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі, падпісанымі Рэспублікай Беларусь.
- Стварыць у Беларусі передумовы для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правесьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбары ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады. У прыватнасьці, Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь да правядзеньня парлямэнцкіх выбараў у 2016 годзе ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі і пад кантролем міжнародных назіральнікаў.

Зважаючы на актуальную сытуацыю ў міжнароднай палітыцы і ў эканоміцы, Рада БНР заяўляе, што адсутнасьць дэмакратычнага палітычнага працэсу ў Беларусі і манапалізацыя ўлады ў краіне з боку групы на чале з А. Лукашэнкам зьяўляюцца непасярэднай пагрозай незалежнасьці Беларусі і дабрабыту беларусаў.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць спрыяць дэмакратызацыі Беларусі і ажыцьцяўляць ціск на афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь з гэтаю мэтай.

# Газэце "Беларус" – 65 гадоў!

Першы нумар "Беларуса" выйшаў у Нью-Ёрку 20 верасьня 1950 году. Залажыла выданьне створанае паваенняй эміграцыяй ў 1949 годзе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). На дзень сьвяткаваньня юбілею ў сьвет выйшла 616 нумароў.

"Беларус" – адно са старэйшых перыядычных беларускіх выданьняў у замежжы. Можна сказаць, што гэта сёньня амаль адзіная эміграцыйная газэта, якая ўтрымалася такі доўгі час. "Беларус" адлюстроўвае не толькі жыцьцё амэрыканскіх беларусаў, але і падае інфармацыі пра беларускія асяродкі ў розных іншых краінах, а таксама і пра навіны з Бацькаўшчыны. Ад пачатку і да сёньня газэта трымаецца ў сваім зьмесьце патрыятычных поглядаў, падтрымлівае ідэю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, ідэі дэмакратыі і свабоды, прапаганды і абароны беларускай культуры і мовы.

Юбілейная імпрэза адбылася ў Беларускім цэнтры на Атлянтык Авэню 401 у Нью-Ёрку ў нядзелю 25 кастрычніка. Ганаровым госьцем і асноўным прамоўцам на сьвяце быў сп. Вітаўт Кіпель. Шмат гадоў ён супрацоўнічаў з газэтаю і ўкладаў сваю працу ў яе выданьне разам са сваёй жонкаю Зораю і блізкімі палечнікамі. Сп. Кіпель зачытаў прывітальны ліст ад сп. Янкі Запрудніка, які цягам 15 гадоў быў галоўным рэдактарам, але ў гэты дзень не здолеў прыйсьці на юбілей. Ад імя цэлай сваёй адданай беларускай справе вялікай сям'і сп. Вітаўт зрабіў сапраўды "царскі" падарунак газэце – ахвяраваньне на 1 тыс. дал.

Сучасны галоўны рэдактар газэты Ганна Сурмач зачытала атрыманыя віншаваньні з юбілеем – ад сп. Івонкі Сурвіллы – старшыні Рады БНР, ад Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", ад Згуртаваньня беларусаў Канады і Парафіі Св. Кірылы Тураўскага з Таронта, ад сп. Валеры Барташа з Севастопаля. Яна таксама згадала гісторыю выданьня, кожнага з ягоных папярэдніх галоўных рэдактараў, прадэманстравала першы нумар газэты і запрасіла прысутных азнаёміцца з падрыхтаванай у залі выставай.

Сябра Рэдакцыі Тацьцяна Красоўская распавяла, як даносіцца газэта да чытачоў, куды ідзе рассылка, зачытала некаторыя атрыманыя лісты са словамі падзякі. Сябра Рэдакцыі, які ажыцьцяўляе кампутарны набор нумароў газэты, Мікола Шыдлоўскі заклікаў прысутных больш актыўна супрацоўнічаць з газэтаю, падаваць свае інфармацыі, каб зьмест газэты стаў больш шырокім.

Расьціслаў Гарошка, як адзін са старэйшых чытачоў газэты, пажадаў выданьню посьпехаў, каб яно працягвала жыць у будучыні.

Імпрэза скончылася ўспамінамі пра розныя адметныя моманты ў жыцьці газэты, сьмешныя выпадкі. Так, сп. Гарошка нагадаў, як жонка аднаго з былых рэдактараў газэты цягам 20 гадоў сп. Станіслава Станкевіча прасіла сяброў на нейкім сходзе БАЗА: "Не адбірайце ў яго газэту, бо ён памрэ". Дзякуючы такім вось энтузіястам і дажыў "Беларус" да гэтага паважнага 65-гадовага веку.

# Прамова Вітаўта Кіпеля на сьвяткаваньні юбілею газэты "Беларус"

З газэтай "Беларус" я ў сяброўстве-супрацоўніцтве ад пачатку яе выхаду ў сьвет, ад 1950 году. У той час я жыў у Бэльгіі, вучыўся ва ўнівэрсытэце ў горадзе Лювэне. У Бэльгіі ў той час дзеяла беларуская грамадзкая арганізацыя "Саюз беларусаў у Бэльгіі" (СББ), якая сярод іншых грамадзкіх абавязкаў была адказная за распаўсюджваньне беларускай прэсы, а найперш, газэты "Беларус". Адміністратары газэты папрасілі кіраўніцтва СББ рассылаць і гэту амыканскую газэту падпісчыкам – сябрам СББ. Мы на просьбу згадзіліся і рассылку выконвалі.



Ад сярэдзіны 1950-х, калі я перабраўся ў ЗША, я стаўся сталым "амэрыканскім" чытачом-падпісчыкам газэты, час ад часу пішучы ў газэту хранікёрскія зацемкі. Ад 60-х гадоў, калі мы з сямьёй атайбаваліся настала каля Нью-Ёрку, а я штодняч працаваў у самым цэнтры гораду, я перайшоў у катэгорыю рэдакцыйна-адміністрацыйнай "кухні" газэты. Ведаў-перажываў штодзённае жыцьцё "Беларуса". Рэдактарам газэты я ніколі не быў, хоць, праўда, хоць, праўда, са сп. Антонам Шукелойцем мы выпусьцілі не адзін нумар газэты. Аднак, блізка супрацоўнічаў з усімі рэдактарамі.

У верасьні "Беларусу" стукнула 65 гадоў, за гэты час выйшла 616 нумароў газэты. Калі праналізаваць гэтую лічбу адносна колькасьці выдадзеных беларускіх перыёдыкаў з лічбаю больш за сто выпускаў, то назіраем наступнае:

газэта "Бацькаўшчына" (Нямеччына, 1947-1966) – 637 нумароў, газэта "Беларус" (ЗША, 1950-2015) – 616 нумароў, бюлетэнь "Весткі і паведамленьні" (ЗША, 1982-2015) – 595 выпускаў, "Беларускі голас" (Канада, 1952-1995) – 370 нумароў, часапіс "Божым шляхам" (Францыя, Англія, 1947-1995) – 151 нумар, газэта "Беларускі дайджэст" (ЗША, 1993-2003) – 124 нумары, часапіс "Аб'еднаньне" (Англія, 1948-1966) – 108 нумароў, часапіс "Барацьба" (Нямеччына, 1955-1989) – 101 нумар.

З гэтага пераліку відавочна, што з усіх выданьняў, толькі газэта "Беларус" даягнула 65-гадовага веку і мае шанс выйсьці з другога на першае месца па колькасьці нумароў, бо працягвае выдавацца і сёньня.

На мой погляд, 65-гадовы перыяд выхаду газэты зьяўляецца найвышэйшай дадатнай характарыстыкаю выданьня.

Многія іншыя перыёдыкі пачыналіся й ...канчаліся. Газэта "Беларус" жыла таму, што яе падтрымлівала беларускае грамадзтва. Лічу, штогэта ўнікальна! Выдатна! Грамадзтва падтрымлівае таму, што "Беларус" выказвае думкі-пагляды, супадаючыя з паглядамі грамадзтва. Беларуская дыяспара лічыць газэту сваёй і таму падтрымлівае. І гэта доўжыцца 65 гадоў.

Мае разважаньні базуюцца на дасьведчанасьці за 30 гадоў працы ў бібліятэцы, маючы дачыненьні з перыёдыкаю розных дыяспараў, гэтых выданьняў я ве-

# Прывітальны ліст
## ад сп. Янкі Запрудніка

Шаноўная рэдактар "Беларуса" спадарыня Ганна Сурмач!

Шкадую, што не змог прыбыць на ўрачыстасьць ушанаваньня 65-х угодкаў рэдагаванай Вамі газэты, зь якой у мяне даўняя працоўная і чытацкая сувязь. Нельга перацаніць важнасьці выхаду гэтага друкаванага органу БАЗА. У юбілейным пяцісотым нумары "Беларуса" адзінаццаць гадоў таму было слушна сказана ад Рэдакцыі :

"Грамада без свайго друкаванага органу - што чалавек без голасу й без памяці. газэта "Беларус" перш-наперш – гэта голас раскіданых па сьвеце беларусаў: голас жывога грамадзкага арганізму, голас людзей, што самасьцьвярджаюць сябе, голасьць іхнай любасьці да свайго, голас пратэсту й абароны, гэта сыгнал у геаграфічнай і часовай прасторы, што Беларусь жыве, што беларускі народ мае свае чалавечыя й нацыянальныя ідэалы. Газэта "Беларус" гэта наша калектыўная памяць, хроніка нашага жыцьця, наша гісторыя".

Крыніцу гэтай гістарычнай памяці трэба папаўняць далей і належна замацоўваць новымі тэхналягічнымі сродкамі. Трэба зрабіць таксама, каб да гэтай крыніцы быў як мага шырэйшы і лягчэйшы доступ.

Вельмі свежы прыклад таго, што я маю на ўвазе. Прафэсар Лёнданаўскага унівэрсытэту Арнольд Макмілін, аўтар шэрагу публікацыяў пра беларускую літаратуру, у тым ліку эміграцыйную, зьвярнуўся нядаўна да мяне з просьбаю дапамагчы яму знайсьці апублікаваны ў газэце "Беларус" артыкул Станіслава Станкевіча пра Уладзіміра Караткевіча й ягоны культ Кастуся Каліноўскага. Макмілін напісаў мне пасьля таго, як ён пабываў у лёнданскай бібліятэцы імя Скарыны, але там патрэбнага нумуару не знайшлі. Рэч у тым, што пасьля адыходу а. аляксандра Надсана, відаць, не было адпаведнай асобы, каб заняцца пошукам. Газэту неўзабаве знайшлі, пра што Макмілін мне сьпешна паведаміў, але гэты выпадак толькі падкрэсьлівае, што доступ да гадавікоў "Беларуса" не такі ўжо просты.

У сувязі з гэтым хачу паведаміць добрую навіну. А гэта аб прапанове Аляксандраўскай бібліятэкі Ратгерскага унівэрсытэту аблічбаваць (digitize) газэту "Беларус" у поўным аб'ёме. Электронны варыянт зробіць магчымым доступ да ўсіх нумароў газэты ў Інтэрнэце. Гэта будзе вялікім здабыткам як для дасьледчыкаў гісторыі беларускай дыяспары, так і для чытачоў "Беларуса".

А пакуль што трэба шчыра падзякаваць рэдактару газэты сп. Ганьне Сурмач і ейным супрацоўнікам, а таксама карэспандэнтам і ахвярадаўцам за вельмі карысную нам інфармацыю, а разам з тым і за дакумэнтаваньне нашага жыцьця і дзейнасьці.

Жыве Беларусь!

З павагай,

***Янка Запруднік***

*25 кастрычніка 2015*

*Фота ўсіх папярэдніх рэдактараў газэты, апублікаваныя ў № 575 "Беларуса" за сьнежань 2010 да 60-й гадавіны газэты*




даў дзесяткі. Беларуская дыяспара мае падставы ганарыцца сваім вынікам, сваёй накіраванасьцю.

А цяпер колькі словаў аб "кухні" газэты, рэдактарах і інш.

Паважаныя сябры! У адносінах да "Беларуса" вельмі важна і патрэбна падкрэсьліваць такую асаблівасьць: уся творчая праца, рэдагаваньне, тэхнічная падрыхтоўка, рассылка выконваюцца на грамадзкіх пачатках, бясплатна, як кажуць "за дзякуй". Грашыма аплачваюцца толькі друкарскія выдаткі і паштовая рассылка. Рассылка, асабліва ў замежжа, каштуе дорага.

Як і фінансавы бок, рэдактараў газэце таксама забясьпечвае беларускае грамадзтва. Рэдактарамі газэты становіліся дасьведчаныя, знаныя грамадзкія асобы, актывісты, дзеячы дзяржаўнікі. Пры гэтым забясьпечваецца пераемнасьць і цягласьць нашага нацыянальнага руху. Прыкладам, на рэдактарскай пасадзе працавалі як пачынальнікі беларускага Адраджэньня – нашаніўцы – Міхась Міцкевіч, брат Якуба Коласа, гэтак і дзеячы віленскіх беларускіх арганізацыяў, выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі – Леанід Галяк, Вітаўт Тумаш, Натальля Арсеньнева, Станіслаў Станкевіч, а таксама ветэран перыядычнага друку, шматгадовы супрацоўнік беларускамоўнай газэты "Савецкая Беларусь" Лявон Савёнак, прадстаўнікі новага пакаленьня – матурысты Гімназіі імя Янкі Купалы, абітурыенты заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтаў – Янка Запруднік, Зора Кіпель. У 90-х гадох, калі пачаўся "прыліў" новых сілаў з Беларусі газэце дапамагалі Зьміцер Саўка, Лявон Юрэвіч, Сяргей Шупа, Віталь Зайка, Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык. Паступова рэдагаваньне газэты перайшло ў рукі прадстаўнікоў навейшага Адраджэньня – Марата Клакоцкага ды цяперашняй рэдактаркі Ганны Сурмач.

Я ганаруся газэтаю, мы ўсе павінны ганарыцца "Беларусам", ня гледзячы на нашыя грамадзкія "мінусы", непаладкі, часам сваркі і непаразуменьні, мы – беларусы, пакаленьні нас патрапілі трымаць газэту на ўзроўні, рэпрэзэнтаваць нас у сьвеце, выступаць за нашу дэмакратычную дзяржаўнасьць. Мусім і надалей мець адказнасьць за падтрымку выданьня, каб яно жыло яшчэ доўгія гады .

Пажадаем "Беларусу" крочыць у будучыню з тым самым імпэтам, як і дагэтуль.

"Жыве Беларусь!"

**Сп. Кіпель дадаў да вітаньня сп. Запрудніка такую дэталь:**

*"У нядаўна выдрукаваных 23-х тамах творчасьці паэта Ніла Гілевіча, ў частцы публіцыстычнай, паэт з абурэньнем згадвае, што калі б ён меў доступ да газэты "Беларус" раней, меў бы магчымасьць пачытаць, што пісала эміграцыя і пра ягоную творчасьць і пра творчасьць Янкі Купалы. Бясспрэчна, падкрэсьлівае Ніл Гілевіч, скарыстала б з таго шмат беларуская літаратура, маладыя пісьменьнікі".*



---

**Спадарыні Ганьне Сурмач**

**Рэдактару газэты "Беларус"**

***25 кастрычніка 2015***

**Ад імя Рады БНР віншую Вас з вялікім юбілеем газэты "Беларус" - 65-годдзем яе існаваньня.**

Жыцьцё газэты было доўгім і прадуктыўным, дзякуючы ахвярнасьці ўсіх яе рэдактараў і супрацоўнікаў. Думкі мае сёньня са сьветлай памяці Міхасём Міцкевічам, Натальляй Арсеньневай, Станіславам Станкевічам, Зорай Кіпель і ўсімі іншымі рэдактарамі газэты, якіх ужо няма між намі. Хачу таксама выказаць глыбокую ўдзячнасьць Янку Запрудніку, Марату Клакоцкаму і Вам, сп. Ганна, бо дзякуючы вашым старанням газэта дажыла да гэтага 2015 году.

З глыбіні сэрца жадаю Рэдакцыі газэты вытрываласьці і плёну ў працы на карысьць лепшае будучыні беларускага народу на Бацькаўшчыне і ва ўсіх краінах сьвету, дзе жывуць Беларусы.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**

*Старшыня Рады БНР*

---

**Галоўнае Ўправы Згуртаваньня Беларусаў Канады, Рады Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта (БАПЦ)**

***Дарагі «Беларусе»! Паважаныя сябры!***

*Галоўная Ўправа Згуртаваньня Беларусаў Канады, Рада Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта (БАПЦ) шчыра віншуюць вас з выдатнаю падзеяю – 65-годдзем выхаду ў сьвет першага нумару газэты.*

*Гісторыя «Беларуса» гэта, без перабольшваньня, гісторыя жыцьця і думкі беларускага замежжа. Хіба ніводная грамадзкая інстытуцыя ані выданьне ў замежжы не змаглі так удала адлюстраваць і рафінаваць тое, што мы называем самаідэнтыфікацыяй, духам беларускім. Для суайчыньнікаў, якіх лёс закінуў далёка ад родным месцаў, гэта мела значэньне надзвычайнае.*

*Беларусы Канады заўсёды з цікавасьцю чакалі і чакаюць «Беларуса». Варта ўзгадаць тут былыя «Весткі з Канады» пры газэце «Беларус» і актыўную падтрымку выданьня такімі нашымі суродзічамі як Кастусём Акулам, сп-вам Вінцуком і Раісай Жук-Грышкевічамі, Міколам Ганьком, Алесем Грыцуком, Міхалам Кулешам, Антонам Маркевічам, Арсенем Монідам і іншымі. Дасылалі свае артыкулы, нататкі, рэпартажы, дбалі аб газэце, падтрымоўвалі яе выданьне матар'яльна.*

*«Беларус» 65 гадоў таму на чужыне знайшоў свой адметны, гучны голас. Голас той гучаў і гучыць, каб яе чытачы таксама маглі знайсьці і мець свой.*

*Посьпехаў жа табе, «Беларусе», натхненьня і плёну на доўгія гады!*

---

Віншую газэту беларусаў Амэрыкі з 65-годдзем! Газэта "Беларус" ёсьць сьведчаньне, дакумэнт нацыянальнага руху беларусаў у адстойваньні самабытнасьці народу і дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. З'яўленьне час ад часу майго імя на старонках газэты ўспрымаю, як вялікі Гонар. Удзячнасьць і найлепшыя пажаданьні ўсім, хто прымаў і прымае ўдзел у выданьні газэты "Беларус".

Жыве Беларусь! Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць! Праўда пераможа!

З павагаю

***Валер Барташ***

*Севастопаль.*

*24 кастрычніка 2015*

---

МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
*"ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*
**«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

*Для пошты:* Рэспубліка Беларусь 220012
г. Мінск, вул. К.Чорнага, 31-906
тэл./факс (017) 203 10 12
e-mail: *zbsb@tut.by*

*Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь 220012*
*г. Мінск, вул. К. Чорнага, 31, пам. 12Н, п. 3*
р/р 3015031790839,
ф-л 500 МУ АСБ "Беларусбанк", код 601
УНН 100259946, ОКПО 37381422



МЕЖДУНАРОДНОЕ ОБЩЕСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
*"ОБЪЕДИНЕНИЕ БЕЛОРУСОВ МИРА*
**«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

*Для почты:* Республика Беларусь 220012
г. Минск, ул. К. Чорного, 31-906
тел./факс (017) 203 10 12
e-mail: *zbsb@tut.by*

*Юридический адрес: Республика Беларусь 220012*
*г. Минск, ул. К. Чорного, 31, пом. 12Н, к. 3*
р/с 3015031790839,
ф-л 500 МУ АСБ "Беларусбанк", код 601
УНН 100259946, ОКПО 37381422

23.10.2015 г.

**Шаноўныя сябры!**

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе рэдакцыю і ўсіх чытачоў газеты "Беларус" з 65-гадовым юбілеем.

Мала якія выданні могуць ганарыцца такім доўгім перыядам паслядоўнай, грунтоўнай працы. На працягу ўсіх гэтых гадоў газета "Беларус" асвятляе на сваіх старонках навіны з жыцця беларускіх арганізацый у Амерыцы, а таксама інфармуе чытачоў пра галоўныя падзеі ў Беларусі. Такім чынам, газета – не толькі выдатны сродак камунікацыі, які лучыць у адну супольнасць беларусаў Амерыкі, гэта і голас самой Беларусі ў Амерыцы!

Ведаем, што газета "Беларус", як і многія іншыя беларускія выданні за мяжой, існуе галоўным чынам дзякуючы нястомнай працы яе заснавальнікаў і рэдактараў, нязгаснай энергіі невялікага кола беларусаў – энтузіястаў сваёй справы. Шчыра дзякуем вам за вашую працу!

Газета "Беларус" мае вялікае значэнне не толькі для беларускай супольнасці Амерыкі. Яна значная, аўтарытэтная, унікальная крыніца інфармацыі і для беларусаў метраполіі пра беларускае жыццё ў Амерыцы. Выданне – яшчэ і невычэрпная скарбніца інфармацыі для даследчыкаў і навукоўцаў, усіх тых, хто цікавіцца беларускай прысутнасцю ў свеце.

Яшчэ раз віншуем з юбілеем і жадаем усім супрацоўнікам рэдакцыі добрага здароўя, пазітыўных беларускіх навінаў, творчага натхнення, пашырэння кола чытачоў і прыхільнікаў і далейшых поспехаў у справе папулярызацыі беларускай культуры ў Амерыцы.

Спадзяемся, што святочная імпрэза з нагоды юбілею падорыць вам шмат радасных, прыемных уражанняў і натхнення!

Будзьма разам!
Жыве Беларусь!

З павагай,

Алена Макоўская
Кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Ніна Шыдлоўская
Старшыня Рады
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

---

**У В А Г А!**

**Паведамляем наш новы паштовы адрас,**
**на які трэба дысылаць пошту для газэты "Беларус":**



**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**U S A**



# ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ – РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

Выдаваньне газэты "Беларус", як ведаем зь нядаўна адзначанага юбілею, было запачаткавана 65 гадоў таму. Учынілі гэта сябры й прыхільнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, амэрыканскія навасёлы. І хоць на самым пачатку яны й мовы ня ведалі, і мінімальныя заработкі мелі, але ўпэўнена ведалі, што ім патрэбен друкаваны голас – патрэбен, каб чуць адзін пра аднаго, каб трымацца разам як мага ў большай колькасьці. Бо ж у грамадзе сіла!

Гісторыя газэты "Беларус" мае свае павучальныя старонкі й калярытныя постаці. Адной з гэтых апошніх быў ейны рэдактар Дзядзька Міхась Міцкевіч (малодшы брат Якуба Коласа; літаратурны псэўдонім – Антось Галіна). Мы зь ім пазнаёміліся яшчэ ў Нямеччыне ў другой палавіне 40-х у перасяленчых (дыпіўскім) лягеры ў Рэгенсбургу, а пасьля ў Міхэльсдофрэ. Там ён быў настаўнікам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Калі ў сакавіку 1957 г. я пакінуў працу ў радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне й перабраўся ў Нью Ёрк, мы зь ім сустрэліся ізноў. Ён тады рэдагаваў "Беларуса". Рабіў гэта самотна, зь цяжкасьцямі, бо не ставала ні матэрыялу ў газэту, ні грошай на ейны друк. У другой палавіне 50-х у гісторыі "Беларуса" трываў крызісны час у моц розных прычынаў, аб'ектыўных і суб'ектыўных, у тым ліку непаразуменьня пра дачыненьне Рады БНР да газэты як органу БАЗА. Хоць усе ранейшыя рэдактары "Беларуса", уключна зь Міхасём Міцкевічам, былі сябрамі Рады БНР.

"Беларус" – гэта ня толькі газэта, гэта люстэрак нашай грамадзка-нацыянальнай здольнасьці выжываць у скрайніх абставінах ды трывала існаваць у гістарычнай прасторы – менавіта тады й там, дзе ўсё трэба пачынаць з нуля ды працягваць сваімі сіламі, у некаторых мамэнтах-пэрыядах сілай аднае самаахвярнае асобы. Гэткае выпрабаваньне выпала на долю беларускае грамады ў заходнім сьвеце, упасобку ў Амэрыцы, у канцы саракавых-пачатку пяцідзясятых мінулага стагодзьдзя ды працягваецца па сёньняшні дзень.

Ня ведаю дакладна, калі й пры якіх акалічнасьцях Дзядзька Міхась узяўся за рэдагаваньне, але ведама, што абставіны тады былі неспрыяльныя, бо ня толькі вычарпаўся сьціплы грашовы рэсурс з амэрыканскай крыніцы на друк газэты, але й вельмі скупа было з допісамі ў яе. Рэдактару трэба было ня толькі запоўніць чатыры паласы, але й даплаціць за друк са свае невялікае зарплаты (працаваў ён з лапатаю на магільніку). У тым дапатопным часе, калі гэзэрксная машына была сэнсацыйным дзівам тэхнікі, ратункам для галоднага на допісы рэдактара была толькі пошта. А паштальён рэдка спыняўся каля паштовай скрынкі Дзядзькі Міхася. Яму самому даводзілася наведваць папрыхільных дапішчыкаў. Быў ён частым гасьцём і маёй бруклінскай кватэры. Памятаю, як ён, развітваючыся, доўга яшчэ трымаўся за клямку, пакуль не выгавараўся пра грамадзкія балячкі ды газэтны голад. Я тады працаваў пазаштатным карэспандэнтам беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" (пазьнейшая "Свабода"). Грамадзка-культурнае жыцьцё бурліла тады ў Нью Ёрку й па-за ім. Пісаць у газэту было пра што, але ня надта было каму, бо рабілася шмат чаго іншага. А што да мяне, дык рэпартаж для радыё, ці нейкі іншы матэрыял, лёгка можна было перапісаць і для газэты, так што ў нас зь Дзядзькам Міхасём было пра што гаварыць. Але нястача матэрыялу была "хваробай" хранічнай. Бо ж рэдактару заўсёды хочацца, каб нумар выглядаў як мага разнастайней і цікавей. А такой раскошы Дзядзька Міхась ня меў, дый з грашыма на друк было туга. У выніку ўсяго гэтага ў гадавіках "Беларуса" таго часу засталіся "дзіркі". Прасачыць іх цяпер ня так і проста, бо гадавікоў пад рукамі няма. Тым ня менш, у агульнай рэтраспэктыве працягласьць газэты захавалася, цяжкасьці выдаваньня неяк перамагаліся, дзякуючы ахвярнасьці рэдактароў, дапішчыкаў і ахвярадаўцаў, а другой палавіне 50-х найбольш дзякуючы самаахвярнаму й цягавітаму Дзядзьку Міхасю Міцкевічу.

*Янка Запруднік*




# Святлана Алексіевіч – ляўрэат Нобелеўскай прэміі!

**8 кастрычніка ў сталіцы Швецыі назвалі ляўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. „За шматгалосную творчасць – помнік пакутам і мужнасці ў наш час," – такімі словамі Нобелеўскі камітэт абвесціў беларускую пісьменніцу Святлану Алексіевіч пераможцай Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2015. Яна – першая грамадзянка Беларусі, якая атрымала Нобелеўскую прэмію.**

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 годзе ва ўкраінскім Івана-Франкоўску. Яе бацька – беларус, вайсковец-лётчык, маці – украінка.

Пісьменьніца дэбютавала як журналістка ў 1975 годзе. Яна – аўтар кніг «У вайны не жаночае абліччa» (1985), «Апошнія сьведкі» (1985), «Цынкавыя хлопчыкі» (1990). «Зачараваныя сьмерцю» (1993), «Чарнобыльская малітва» (1997), «Час сэканд хэнд» (2013).

За свае літаратурныя працы Алексіевіч шматразова атрымлівала розныя ўзнагароды. Толькі за апошнія пяць гадоў ёй прысуджалі Літаратурную прэмію Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы "Ангелус" (Польшча, 2011), Прэмію міру Саюза нямецкага кнігагандлю (Германія, 2013), Прэмію Медычы (Францыя, 2013), прэмію "Пяро волі" (Польшча, 2013), прыз чытацкіх сімпатый літпрэміі "Вялікая кніга" (Расія, 2014), двойчы – прэмію Рышарда Капусцінскага (Польшча, 2011 і 2014 гады). Алексіевіч носіць званне афіцэра ганаровага ордэна мастацтваў і літаратуры Французскай Рэспублікі. А вось ніводнай прэміі ў Беларусі яна так і не атрымала. Яе кнігі перакладаліся на ўсе асноўныя эўрапейскія мовы.

Святлана Алексіевіч – 14-я жанчына, якая атрымала прэмію. Усяго было 112 ляўрэатаў.

## 95-я угодкі Слуцкага збройнага чыну



**У нядзелю, 29 лістапада беларусы Нью-Ёрку традыцыйна сабраліся ў грамадзкай залі на Атлантык Авэню 401, каб урачыста адзначыць 95-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну і ўшанаваць памяць герояў-паўстанцаў. Перад тым у царкве пасьля нядзельнай літургіі была адслужаная паніхіда ў памяць случчакоў.**

# Ушанаваньне памяці герояў-случчакоў у Нью-Ёрку

Сьвяточную імпрэзу адчыніла Тацьцяна Красоўская – старшыня Бруклінскага Аддзелу БАЗА, як асноўнага арганізатара мерапрыемства. Далей рэй павяла моладзь. Пад рэжысёрскім кіраўніцтвам сябroўкі Управы Аддзелу Натальлі Федарэнкі дзяўчаты і хлопцы пад-





рыхтавалі мастацкую дзею. Ролю пакутнай Маці-Беларусі, якую абаранялі яе сыны-героі, у чорнай суконцы вельмі пранікнёна выконвала госьця з Варшавы, журналістка Наста Ільіна. Апра-



нутыя ў нацыянальныя строі, маладыя людзі зачытвалі тэксты з успамінаў паўстанцаў і з некаторых мастацкіх твораў. Пастаноўка атрымалася ўражлівая і прысутныя рэагавалі вельмі цёпла і актыўна. На завяршэньне ўсім захацелася зрабіць памятнае агульнае фота, каб застаўся добры ўспамін пра сьвята.



# Зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы

***Дарагія суродзічы, сябры!***

Зноў надыходзіць канец лістапада, калі нашыя случчакі, 95 гадоў таму, узяліся за зброю, каб не дапусьціць новай акупацыі свайго краю бальшавіцкімі агрэсарамі.

Рэспублікі. У школах БССР было забаронена прыгадваць Слуцкія падзеі, гэтак як сёньня забаронена насіць майкі з «Пагоняй» – нашым старажытным гэрбам – у Рэспубліцы Беларусь. Бо рукамі антыбела-

У вольным сьвеце ўсе мы ганарымся нашымі Слуцкімі патрыётамі і з удзячнасьцю кожны год адзначаем іх Збройны Чын на нашых сьвяткаваньнях Дня Герояў. Успамінаем адначасна і ўсіх іншых герояў Беларусі, якія загінулі, каб жыла Бацькаўшчына.

Нажаль, вельмі мала нашых суродзічаў у Беларусі чулі пра Слуцкі Збройны Чын і змаганьне Случчакоў за волю Беларускай Народнай

рускага рэжыму, які пануе ў нашым краі, ўсё яшчэ адбываецца павольны генацыд нацыі, пачаты Кацярынай II два стагодзьдзі таму.

Дарагія суродзічы, дазвольце заклікаць вас аддаць даніну павагі нашым слуцкім героям. Ісьці змагацца ім было цяжка – як гэта было б сёньня вам. Але яны, усё ж, пайшлі.

Вечная ім памяць!

Жыве Беларусь!

*Лістапад 2015*

# Дзень Падзякі па-беларуску

Сёлета амерыканскі Дзень Падзякі прыпаў на 26 лістапада. Гэта адно з вялікіх сьвятаў у краіне. Гісторыя гэтага сьвята зьвязана з падзеямі, якія адбываліся восеньню 1621 году, калі Вільям Брэдфард (губернатар Плімуса) запрасіў суседніх індзейцаў племя Вампаноаг прыняць удзел у фестывалі. Сьвята вялікага ўраджая, што стаў узнагародай для перасяленцаў, якім давялося нейкі час пакутваць ад хваробаў, голаду і холаду, доўжылася тры дні. Менавіта Бэдфард прапанаваў першым каланістам такім чынам падзякаваць Богу. У 1863 годзе Лінкольн абвясціў Дзень Падзякі – афіцыйным святам, якое адзначалася кожны чацьверты чацьвер лістапада. У XX ст. сьвята сталі адзначаць на тыдзень раней.

У цяперашні час – гэта сямейнае сьвята, якое з'яўляецца яшчэ адной нагодай ўсім родным людзям убачыць адзін аднаго, на час забыцца аб праблемах навакольнага свету.

Нават калі ўсе вашы родныя людзі за тысячы кіламетраў у гэты дзень, вы ўсё роўна не застанецеся адны. Для вас заўсёды знойдзецца вольнае месца за святочным сталом у амэрыканскай беларускай грамадзе з традыцыйным індыкам і гарбузовым пірагом. Для беларускага эмігранта – гэта яшчэ Дзень падзякі краіне, якая яго прыняла.

# Дзяды ў Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі

У нядзелю, 1 лістапада, беларуская грамада ў Нью-Ёрку адзначыла Дзень памяці продкаў – нашы традыцыйныя Дзяды. У Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага пасьля нядзельнай літургіі была адслужана паніхіда ў памяць памерлых – тых, хто аддаў свае жыцьці ў змаганьні за беларускую справу, хто загінуў у войнах, хто трапіў у жорны сталінскіх рэпрэсіяў, хто заўчасна адыйшоў з-за наступстваў Чарнобылю, каго загубіў сёньняшні рэжым, хто апынуўся ў выгнаньні і памёр на чужыне. Кожны з прысутных таксама згадваў пра свае страты блізкіх, сяброў і паплечнікаў і маліўся за супакой іх душаў.



Далей дзея працягнулася ў грамадзкай залі, дзе была наладжана сумесная бяседа за сталом. Дзяліліся ўспамінамі, згадвалі, як адзначалі Дзяды на Бацькаўшчыне. Алена Рыдзеўская распавяла пра гістарычныя карані адзначэньня Дня памяці продкаў. Ганна Сурмач згадала пра тое, што пяць гадоў таму ў такія ж сумныя лістападаўскія дні страціла маці, а перад гэтым і адзінага брата, і толькі тады зразумела, што сама-



га пісьменьніка Валеры Маракова, згадала, як было цяжка ёй слухаць ад настаўнікаў у школе пра тое, што Сталін быў вялікім дзеячам. Яе бацька шмат гадоў займаўся дасьледаваньнем лёсаў рэпрэсаваных беларусаў. Алена Рыдзеўская паведаміла, што менавіта з кнігі Маракова яе сямья даведалася пра лёс іхных блізкіх, што былі зьнішчаны праўднае разьвітаньне з Радзімаю адбываецца, калі страчваеш там родных. Дзіяна Маракова, дачка Леаніда Маракова і радня рэпрэсаванапад час рэпрэсіяў. Госьця з Польшчы, журналістка Эўрарадыё, Анастасія Ільіна згадала, як адзначаліся Дзяды ў Берасьці, адкуль яна родам. Ала Караткевіч нагадала, што беларусы ў Нью-Ёрку павінны памятаць у такі дзень і пра тых нашых папярэднікаў, хто сарганізавалі беларускае жыцьцё, набылі маёмасьць і стварылі ўмовы для наша пакаленьня эміграцыі, цяпер наша задача захаваць усё гэта.

У гэты сумны дзень усё ж разыходзіліся ў добрым настроі, што пабылі разам, разам адзначылі Дзяды і ўшанавалі памяць тых, каго ўжо няма з намі.

У нядзелю 1-га лістапада таксама ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царкве Жыровіцкай Божай Маці у Гайленд Парку у штаце Нью Джэрзі адбылася агульная паніхіда па адыйшоўшых сябрах і сваяках вернікаў царквы.




Пасля царкоўнай службы настаяцель парафіі айцец Зіновій Жалобак накіраваўся на царкоўныя могілкі ў Іст Брансуіку, дзе разам з парафіянамі ён памаліўся за супакой душаў памерлых і акрапіў помнікі святой вадой.

***Ганна Сурмач***
***Сяргей Трыгубовіч***
*Фота Сяргея Трыгубовіча*






# Адкрыцьцё Мемарыяла памяці ахвяраў Галадамору ва Украіне









У суботу, 7 лістапада ў Вашынгтоне адбылася адметная падзея, пасьля якой у сталіцы ЗША афіцыйна існуе памятка пра адну з трагічных старонак 20 стагоддзя – Галадамор ва Украіне ў 1932-33 гадох. У гэты дзень адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцьця Мемарыяла памяці ахвяраў Галадамору. Справакаваны злачынным савецкай уладаю жорсткі голад загубіў тысячы і тысячы жыцьцяў бязьвінных людзей. Аднак, гэтая ўлада не жадала прызнаць сваю віну і да сёньня ў Расеі не прызнана, што Галадамор быў злачынствам, скіраваным супроць украінскага народу. Украінцы ацэньваюць гэту трагедыю, як генацыд супроць іх нацыі. Пад час мітынгу выступілі прадстаўнікі амэрыканскіх уладаў, дзеячы украінскай эміграцыі, з Украіны прыехала жонка прэзыдэнта Марына Парашэнка, было паказана відэа з прывітальным словам Пятра Парашэнкі.

На ўрачыстасьць з'ехаліся ўкраінцы з цэлай Амэрыкі, з Нью-Ёрку таксама прысутнічала вялікая грамада. БАЗА атрымала запрашэньне прыняць удзел і наша дэлегацыя ўскладзе 15 асобаў разам з украінцамі з Нью-Ёрку таксама выехала ў Вашынгтон. Мы лічылі патрэбным падтрымаць нашых суседзяў і раздзяліць з імі радасьць і смутак. Стараліся мы як найбольш выразна прадстравіць нашу прысутнасьць на мітынгу, разгарнулі вялікі бел-чырвона-белы сьцяг, зрабілі плякат з Пагоняю і надпісам "Беларусь". Так што абыйсьці ўвагаю нашу групу было амаль немагчыма, шмат людзей падыходзілі, пыталіся, рабілі фота. Там мы сустрэлі даўняга сябра беларусаў – амэрыканскага дыпламата і выдатнага фатографа Джона Кунстадара, які таксама наведаў урачыстасьць.

Мы былі прыемна ўражаныя, як добра ўсё было арганізавана, як было ўсё зручна зроблена для людзей, як урачыста і ўзьнёсла адбывалася цырымонія. Спадабаўся і сам Мемарыял, які ўяўляе сабою сьцяну даўжынёю 10 м. са стылізаванымі пшанічнымі каласамі на ёй. Калосьсе, як сымбаль урадлівых украінскіх палёў, надавала асаблівае гучаньне трагедыі. Багаты ўраджай і голад – дзьве несумяшчальныя рэчы маглі быць абьяднаныя толькі злой воляю тых, хто зламысна справакаваў Галадамор.

Варта парадавацца за украінцаў, за іх салідарнасьць, за іх высокую самасьвядомасьць, за іх адказнасьць перад сваёй краінай, гісторыю якой яны вяртаюць з забыцьця. Агульнымі высілкамі яны здолелі аднавіць і ўшанаваць памяць пра ахвяраў Галадамору, паставілі ім помнік у Кіеве і цяпер ў цэнтры сталіцы ЗША, гэтую памяць ужо не сьцерці. Мы бачылі вакол сябе людзей у вышыванках, з адухоўленымі, натхнёнымі тварамі. Верыцца, што і сёньняшнюю бяду ўкраінская нацыя пераадолее і пабудуе новае больш шчасьлівае жыцьцё.

***Ганна Сурмач***





Віншаваньне зь Белага Дому

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

We are pleased to join your family and friends in wishing you a happy 100th birthday.

As you celebrate this extraordinary milestone, we hope you reflect on the many memories you have made over the past century. Your generation has shown the courage to persevere through depression and war, and the vision to broaden our liberties through changing times.

We are grateful for your contributions to the American story, and we wish you all the best for the coming year.

Sincerely,

Сям'я Міхася Кавыля: жонка Соня, два сыны (справа) Жорж і Міхась, нявесткі Дэбора (справа) і Сынды і ўнучка Даніка.

# 100 ГАДОЎ ПАЭТУ МІХАСЮ КАВЫЛЮ

Паэт Міхась Кавыль (сапр. пр. Язэп Лешчанка) нарадзіўся на Случчыне (01.12.1915), а бальшыню жыцьця пражыў у амэрыканскім горадзе Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі. Саўт Рывэр ведамы як адзін з цэнтраў беларускага арганізацыйнага жыцьця. Тут выдавалася ад 27 жніўня 1950 году першая пасьля вайны беларуская газэта – "Беларуская трыбуна". Міхась Кавыль быў яе галоўным рэдактарам.

Сям'я й сябры Міхася Кавыля адзначылі ў нядзелю 29 лістапада стагодзьдзе ягонага жыцьця, плённага на ніве роднага слова й грамадзкай дзейнасьці. У царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай хор прапяяў юбіляру "Многая лета", а на пачастунку ў ягоным доме ўсе дружна прасьпявалі вельмі папулярную песьню на словы ягонага вершу "Васілёчкі":

*Расьцьвіталі ў полі васілёчкі,*
*Васілёчкі ўсюды васількі...*
*Ой, чаму кароценькія ночкі,*
*Ой, чаму вялікія дзянькі?*

Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябрам якога на працягу доўгіх гадоў быў Міхась Кавыль, перадала яму й ягоным сынам і ўнукам разам зь віншаваньнем копіі старонак з англамоўнае гісторыі беларускай замежнай літаратуры брытанскага прафэсара Арнольда Макміліна, на якіх аўтар апісвае літаратурныя творы Міхася Кавыля.

***Янка Запруднік***

Удзельнікі бяседы ў доме юбіляра

BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
330 Park Street
Haworth, NJ 07641
Tel.: 201 244-0788
e-mail: janzap42@gmail.com

ВІНШАВАНЬНЕ

дарагому й паважанаму Міхасю Лешчанку-Кавылю, сябру Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, на 100-я ўгодкі народзін 1-га сьнежня 2015 году:

Міхасю Кавылю,
лепшай долі кавалю,
сто гадоў які пражыў
і з Музай моцна дружыў.

To Mikhas Kavyl,
a forger of better destiny,
who has lived one hundred years
and had a strong bond with Muse.

Вітаўт Кіпель
Янка Запруднік

# Паэт, які «затрымаўся ля самай магілы»

*Бы мурашка,*
*не па росту падымаю цяжар,*
*Згібаюся, нясу, глытаю пот гарачы;*
*Зьняможаны, паглядаю ў неба,*
*можа, скажа:*
*«Апошняя ступень,*
*адпачні, бядача!...»*
*У небе маўкліня. Цяжка.*
*Паўзі, чалавек-мурашка!*

***Міхась Кавыль, 1990 год.***

Калі чалавеку спаўняецца сто год, яму не асабліва да візыцёраў зь віншаваньнямі, хай бы тыя й жылі ў адной зь ім краіне. Таму большасьць знаёмцаў і чытачоў Міхася Кавыля будуць яго згадваць паасобку — кожны ў сваім горадку ці мястэчку. Хтосьці ў Беларусі мо' й наагул зьдзівіцца, што паэт жывы; як той

Прыхаджане царквы Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры згадаюць, як ён, каталік, надта-ж хораша сьпяваў у хоры, а за нейкіх там дваццаць крокаў ад яе, у грамадзкай залі, прыгадаюць яго не як жыхара вежы з слановай косткі, а суседа, што ахвотна й радасна адгукаўся рыфмаю на ўсе падзеі ў грамадзе.

Я от згадваю яго ня толькі як аўтара «турэмных» успамінаў «Казённы

Міхась Кавыль ваяваў на розных франтах з Васілём Быкавым, але не па розныя бакі. От што паэт пісаў (ня ўпэўнены, ці гэта калісьці друкавалася) пра ўласныя «даносы» падчас акупацыі:

«У часе вайны мой „сябра“ Валянтын Казлоў (пасьля вайны ён „перахрысьціўся“ на Багдановіча, кажуць, „возвратился на Родину“) не таіўся, што зьяўляецца

бёзэ“ (чорная ведзьма). Гуляў з намі і Валянтын Казлоў. Неяк ён мне і кажа: „Я думаю, Саша еврей“. Я „данёс“ аб гэтым Сашу. Ён і яго нарачоная, здаецца, Кесьлер, уцяклі із Менску.

Аднойчы ішоў па шпалах каля таварнай станцыі ў Менску. Бачу — вязьні папраўляюць жалезную дарогу. Пабачыў мяне і Мікалай, хутка прыблізіўся да мяне. Пакуль немец заўважыў, я пасьпеў перадаць Мікалаю чацьвяртушку самагонкі, якую толькі што купіў у знаёмай бабкі, і сказаць: Сёньня ноччу мусіш уцячы, бо праз пару дзён немцы будуць уцякаць із Менску і вас усіх могуць пастраляць. Мой „данос“ ўратаваў Малочку. Зараз жыве ў Саўт Рыверы».

сам калісьці напісаў:

*Я ішоў па краі прадоньня*
*Я ступаў на збутлелыя скалы;*
*Здані з радасьці білі ў далоні,*
*Злыдзень зубы нячыстыя скаліў.*
*Не баяўся я сьмерці, а неяк*
*Затрымаўся ля самай магілы...*

***Міхась Кавыль, 1952***

Нехта згадае яго як апошняга жывога сябру (вы толькі ўявіце!) «Маладняка», а хтосьці — як аўтара шалёна папулярнай у часе вайны песьні «Арляняты маладыя, маладыя сьмелыя// Падымайце ў сонца сьцягі бел-чырвона-белыя!». (Кавыль наагул, здаецца, самы песенны эміграцыйны паэт. У 1972 годзе пісаў да Вітаўта Тумаша: «Шчыра дзякую за два сшыткі песьняў Сп. Зубковіч! На музычных загагульках я мала разумеюся, а таму не магу судзіць аб якасьці песьняў. З маіх песьняў меў нагоду пачуць толькі адну: „Я душу нявыгойна параніў“ у выкананьні дуэту. Мэлёдыя мне спадабалася. А рэшту песьняў ня чуў, але веру кампазытару Карповічу, што яны сапраўды вартыя таго, каб мы іх часьцей чулі на нашых гэтак рэдкіх вечарынах».)

дом і казённая дарога» («Запісы БІНІМ», № 20, 1992), але і як, мабыць, самага вясёлага нашага паэта-эміграннта, заўсёды гатовага да экспромту, эпіграмы, што, разам з тым, і да сябе ставіўся з іроніяй («Сягоньня, 4-га траўня 1956 г., атрымаў з Інстытуту запросіны на вечар, прысьвечаны разгляду кагадзе выданых У. Пелясою вершаў паэтаў М. Сяднёва, Я. Юхнаўца і маіх. На вялікі жаль, я прысутнічаць не магу, бо буду працаваць. Спадзяюся, што мая адсутнасьць не пашкодзіць аб'ектыўнаму падыходу да мае творчасьці»).

А вось Вітаўт Кіпель, напэўна, перачытае Кавылёвы радкі

*Мне падушкай — сталёвая каска.*
*Збоку туліцца «жонка» із Тулы...*
*У вакопе студзёна і гразка...*
*Добра тым, што навекі паснулі...*

і прыгадае свайго даўняга сябру і ягоныя «Мёртвым не баліць»...

агэнтам СД. Я западозрыў, што Казлоў нешта „нюхае“ ў сям'і Шчарбіцкіх, і „данёс“ ім, каб із Менску выехалі, што яны й зрабілі.

На маю гаспадыню Аню Бабкевіч сьмярдзюха Калядка данёс у СД, што яна дапамагала партызанам узарваць будынак „Беларускіх прафсаюзаў“, дзе яна працавала „ўборшчыцай“. У часе выбуху быў забіты шэф гэтых „прафсаюзаў“. Ані пагражала сьмерць. Я падпісаў „данос“ у СД аб тым, што я доўгі час жыву ў яе на кватэры і магу паручыцца, што Аня Бабкевіч не вінавата. Мяне падтрымаў С. Шаўцоў. Аню ўратавалі.

У тым будынку, які ўзарвалі партызаны, працаваў як беларускі прапагандыст жыд Аляксандр Лабовіч, якога, як я пазьней даведаўся, усынавіла беларуская сям'я Лабовічаў. „Саша“, як мы яго называлі, часта прыходзіў да мяне іграць у „шварц

*Прашу ня шмат —*
*кунегі, ласкі,*
*Спагадных слоў і цяплыні.*
*Жыцьцё, я ведаю, ня казка,*
*І людзі — згорбленыя пні.*

Карнею Іванавічу прыпісваюць словы, што ў Расеі трэба жыць доўга. Беларусь не Расея. Таму тут яно не працуе. Апошні том выбранага Міхася Кавыля выйшаў у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва чвэрць стагодзьдзя таму. Да стогадовага юбілею — ні чароднага зборніка, ні, упершыню, асобнага выданьня раману «З вагню ды ў полымя». Сам паэт, страціўшы зрок і слых, абыякавы да ідэі новага выданьня. Яго можна зразумець.

Нас — не.

*Варожыць ноч, смуглявая цыганка,*
*На трэфах зор сівых вякоў спакон.*
*Ня сьпіцца мне. Блакітная фіранка*
*Казыча скроні. Звонкамі вакон*
*Глядзяць дамы трывожна, таямніча,*
*Палошча вецер ночы чорны шаль;*
*Мільгае ў небе срэбра і крышталь,*
*Мільгнеш і ты*
*ў вечнасьць зоркай — зьнічам.*

***Лявон Юрэвіч***

# Справу дзеда працягвае ўнук

Прадстаўнік паваеннай хвалі эміграцыі, актыўны ўдзельнік беларускага жыцця ў Амэрыцы, знаны доктар-хірург Анатоль Занковіч з Нью-Ёрку даслаў нам цікавую інфармацыю. Ён паведаміў, што ягоны 17-гадовы ўнук выступіў з прамоваю пра Беларусь пад час сьвяткаваньня ў Амэрыцы сёлетняга юбілею ААН. Гэты факт сьведчыць пра тое, што нашчадак сп. Занковіча вельмі зацікаўлены лёсам Бацькаўшчыны ягонага дзеда, драматычнай сытуацыяй у сёньняшняй Беларусі і зрабіў добрую справу дзеля таго, каб інфармаваць пра гэта амэрыканскае грамадзтва і заклікаць дапамагчы краіне пазбавіцца ад дыктатарскага рэжыму. Падаем тэкст ягонай прамовы.



***Выступ Джорджа Менца на сьвяткаваньні 70-годзьдзя Арганізацыі Аб'яднаных Націй, 24 Кастрычніка 2015 г. у ратушы горада Вэстпорт у Канэктыкуце:***

“Добры дзень. Я сёньня тут хачу гаварыць пра Беларусь. Магчыма некаторыя з вас чулі пра краіну. Вы, магчыма, ведаеце, што гэта была савецкая рэспубліка, размешчаная паміж Польшчай і Расеяй. Але вы, магчыма, не ведалі, што ў беларусаў ёсьць свая ўласная культура, бясспрэчна адрозьненая ад расейскай. Адзін з маіх інструктараў аднойчы сказаў мне, што беларуская культура «не існуе», хаця Беларусь абвясьціла незалежнасьць ад Расеі ў 1918 годзе; была адным з арыгінальных падпісчыкаў Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Націй у кастрычніку 1945 году ў Сан-Францыска; хаця яна абвясьціла незалежнасьць зноў у 1991 годзе пасьля распаду Савецкага Саюзу; і хаця яе людзі, ўсе дзевяць мільёнаў, па гэты дзень не лічаць сябе расейцамі. Беларусы так прывязаныя да сваёй незалежнасьці, што яны гатовыя цярпець пад жорсткім аўтакратычным рэжымам, каб застацца незалежнай краінай. Як вядома, Беларусь сёньня ёсьць апошняй дыктатурай у Эўропе.

У гэтым годзе беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч стала ляўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Вітаем яе. Гэта ёсьць надзвычайнае дасягненьне. Спадзяюся, што ў будучыні больш беларускіх аўтараў атрымаюць такое прызнаньне. Але, сьвет паранейшаму застаецца або наўмысна невуцкі, або проста апатычны ў адносінах да жахлівых і бясконцых парушэньняў правоў чалавека, учыненых рэжымам Лукашэнкі ў Беларусі.

Я тут пералічу некаторыя з іх да вашага ведама. Human Rights Watch (агаізацыя што назірае за правамі чалавека ў сьвеце) заяўляе, што Беларусь зьяўляецца адзінай эўрапэйскай краінай, якая ўжывае сьмяротнае пакараньне; апазыцыйныя журналісты й блогеры перасьледуюцца й атрымоўваюць пагрозы ад улады: няўрадавыя арганізацыі сутыкаюцца з сур'ёзнымі абмежаваньнямі; актывісты рэгулярна затрымліваюцца без суда.

Нядаўна Лукашэнка ізноў быў пераабраны. Пасьля таго, як ён узяў пад свой кантроль краіну ў 1994 годзе, Лукашэнка выйграў усе выбары на пасаду прэзыдэнта. Можна глядзець на гэта з падазрэньнем. Праваабаронныя арганізацыі неаднаразова крытыкавалі выбары ў Беларусі за тое, што яны праходзілі жахліва несправядліва. Падчас папярэдніх прэзыдэнцкіх выбараў бальшыня апазыцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта апынулася ў турме і адзін зь іх быў вызвалены толькі ў мінулым годзе.

Хоць 83.5 адсоткаў галасоў, што рэжым прыпісвае Лукашэнку на сёлетніх выбарах, бязумоўна перабольшаныя, але таксама праўда, што многія беларусы ўважаюць Лукашэнку меньшым злом. Альтэрнатыва - большае зло, як яны бачаць, было-б далучэньне Беларусі да Расеі. Такім чынам, яны адмаўляюцца ад свабоды слова, свабоды думкі, права абіраць лідэраў, якіх яны хочуць, усё дзеля таго, каб захаваць сваю культурную самабытнасьць і дзяржаўную незалежнасьць.

Мы не можам дазволіць каб гэтая заганная непрыстойнасьць працягвалася. Ужо час заходняму сьвету прачнуцца і ўбачыць гратэскавыя парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека заяўляе, што кожны чалавек мае "права на свабоду апініі й выказваньня яе ... права беспярашкодна трымацца сваіх перакананьняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыі і ідэі любымі сродкамі незалежна ад дзяржаўных межаў." Калі гэтыя словы маюць нешта значыць, то яны павінны быць падтрыманыя ва ўсім сьвеце, нават у апошняй дыктатуры Эўропы".


*Джордж з маці*

# Канцэрт у Нью-Ёрку



У нядзелю, 11 кастрычніка, беларусы Нью-Ёрку сабраліся ў грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню 401. Амаль кожны тыдзень у гэтым беларускім цэнтры адбываюцца нейкія імпрэзы, мерапрыемствы, акцыі. Гэтая была асабліва цікавая, бо чакаўся канцэрт вядомай сьпявачкі Тацьцяны Матафонавай з Менску. Тацьцяну нью-ёркскія беларусы добра ведаюць. У 2009 годзе яна ўжо была тут з канцэртам і пакінула самыя добрыя ўражаньні і ўспаміны. Таму цяпер яе віталі з асаблівай цеплынёй і цікавасьцю. Шчымлівыя родныя беларускія мелёдыі расхвалявалі прысутных, адгукнуліся у сэрцах болем і смуткам па далёкай Бацькаўшчыне. У многіх былі сьлёзы на вачах. Прысутныя сардэчна дзякавалі таленавітую сьпявачку і актыўную прапагандыстку беларускай культуры. Запрашалі у будучыні ізноў завітаць у Нью-Ёрк.

Тацьцяна Матафонава ў Нью-Ёрк прыехала з нагоды прафесійных музычных студыяў і адначасна пагадзілася парадаваць сваімі сьпевамі амэрыканскіх беларусаў у Нью-Ёрку і Кліўляндзе. Яна брала ўрокі ў опернага сьпявака Францэска Аніле з Метраполітэн опера, які таксама выканаў на канцэрце знакамітае "О соле міо".

Канцэрт гэты ніяк не быў прымеркаваны да той палітычнай падзеі, якая ў гэты дзень адбывалася ў Беларусі. Аднак, у слухачоў ён выклікаў не толькі эмацыянальныя пачуцьці, але і абвострыў цікавасьць да так званых прэзыдэнцкіх выбараў. Пасьля канцэрту ўвага прысутных накіравалася на вялікі экран на сцэне, дзе можна было назіраць наўпроставы рэпартаж пра акцыю пратэста ў цэнтры Менску супроць несумленных выбараў.

Пад такою назваю (Notes from Underground), якую можна перакласьці і як "Запіскі з падпольля", у нядзельным нумары газэты Нью-Ёрк Таймс (The New York Times) за 18 кастрычніка 2015 быў надрукаваны на першай старонцы разьдзелу Arts&Leisure вялікі артыкул з працягам на двух далейшых старонках. Аўтар яго Бэн Брэнтлі (Ben

# Запіскі з падзямельля

Brantley), самы паважаны тэатральны крытык у Нью-Ёрку. Месца і час публікацыі, памер і аўтарства сьведчаць пра высокае ўганараваньне тэмы артыкула. А прысьвечаны ён Беларускаму вольнаму тэатру. Гэта не першая публікацыя пра тэатр у названай газэце, раней крытык ужо пісаў пра яго пад час, калі тэатр даваў спэктаклі у Нью-Ёрку некалькі гадоў таму.

Бэн Брэнтлі настолькі захапіўся авангарднай творчасьцю Вольнага тэатра, што сёлета нават адважыўся паехаць у Беларусь, каб самому адчуць атмасфэру ў таталітарнай краіне і пабачыць спэктаклі ў тых умовах сёньняшняга існаваньня тэатра, які ведаюць і паважаюць у заходнім сьвеце, а ў самой Беларусі ён амаль што працуе ў падпольлі (Underground). Сп. Брэнтлі ягоная задума ўдалася цалкам. Ён пабываў на спектаклях, які даваліся ў самых розных незвычайных месцах, з мэтаю канспірацыі, пра месца паведамлялася перад пачаткам, каб толькі застаўся час на дарогу. Часам даводзілася хавацца і прабірацца праз розныя перашкоды. Так што халодны подых жыцьця ў таталітарным грамадзтве яму ў некаторай меры паспытаць давялося.

Артыкул распавядае не толькі аб прыгодах аўтара ў Беларусі, але найбольш пра творчасьць калектыву, новыя здабыткі , новыя падыходы, пра ўражаньні гледачоў, пра значнасьць ролі мастацтва ў змаганьні з дыктатураю. Артыкул ілюстраваны шматлікімі фота.

Публікацыя Бэна Брэнтлі мае надзвычайнае значэньне для беларусаў. Мала хто з нью-ёркскай творчай эліты і інтэлігенцыі ўвогуле мог не прачытаць гэты адметны артыкул, асабліва пад такім паважным аўтарствам. Мяркую так паводле водгукаў некаторых маіх знаёмых амэрыканцаў. Гэта надае шмат папулярнасьці беларускай тэме, інфармуе амэрыканскае грамадзтва пра сітуацыю ў Беларусі і патрэбу падтрымкі тых, хто змагаецца з рэжымам.

Шаноўны Бэн Брэнтлі заслугоўвае нашай самай шчырай падзякі, як і сама газэта Нью-Ёрк Таймс, што раз пораз уздымае беларускую тэму на сваіх старонках.

***Ганна Сурмач***

# Сьв. памяці Эмігідыюша Рыжага

29 лістапада 2015 г. перастала біцца сэрца архіяпіскапа Юрыя (Эмігідыюша Рыжага) – чалавека, які прысьвяціў усяго сябе служэньню Богу і Бацькаўшчыне-Беларусі.

Уладыка Юры нарадзіўся 5 жніўня 1933 году ў дружнай сялянскай сям'і на хутары паблізу вёскі Латыгала Пастаўскага павету Віленскага ваяводства (Заходняя Беларусь). Цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласьці.

Бацька, Франук Рыжы, за актыўную нацыянальна-патрыятычную беларускую дзейнасьць старэйшага сына Уладзіслава быў забіты партызанамі-НКВДыстамі ў 1942 годзе. З-за гэта ж і маці, Юзэфа Рыжая, атрымала ў 1945 годзе дзесяць гадоў папраўчых лагераў.

У 1946 годзе дванаццацігадовы Эмігідыюш разам са старэйшай сястрой Стафаніяй (сям'я "ворагаў народу") быў вымушаны выехаць у Польшчу. Фактычна гэта была дэпартацыя.

Польскі перыяд жыцьця будучага ўладыкі доўжыўся трыццаць гадоў. У цяжкай сялянскай працы прайшло ягонае юнацтва. З пачаткам калектывізацыі (было і ў Польшчы такое) ў 1950 годзе Эмігідыюш Рыжы перабраўся ў Кашалін, затым у Слупск, дзе спалучаў працу з вучобай ў вячэрняй школе.

На пачатку 60-х гадоў атрымаў дыплом інжынера. Ад таго ж часу жыў у горадзе Устка (балтыйскае узьбярэжжа) і працаваў на розных пасадах ва ўпраўленьні гарадскога будаўніцтва, падтрымліваў сувязь з нацыянальнымі беларускімі суполкамі Польшчы.

Па запрашэньні брата Ўладзіслава Эмігідыюш Рыжы ў 1976 годзе выехаў у Амэрыку, дзе пражыў усё астатняе жыцьцё.

У пачатку 1977 году, адчуўшы Божае пакліканьне, ён паступае ў духоўную семінарыю, высьвячаецца на сьвятара і далучаецца да хрысьціянскай душпастырскай справы свайго брата Ўладзіслава Рыжы-Рызскага (1925 – 1978), доктара тэалёгіі, заснавальніка і кіраўніка Сусьветнага Амерыканскага Патрыярхату (АСП) і Беларускай Аўтакефальнай (Народнай) Праваслаўнай Царквы, стваральніка Універсітэту народаў Амэрыкі, і інстытута беларусаведы імя Ільва Сапегі, выдаўца і рэдактара духоўнай перыёдыкі, аўтара шэрагу багаслоўскіх працаў і літаратурных твораў.

У 1978 годзе Эмігідыюш Рыжы быў высьвячаны на япіскапа. Хіратонію здзесьнілі патрыярх АСП Уладзіслаў (Рыжы-Рызскі) і мітрапаліт Пётр (Журавецкі). Праз паўгода ўладыка Юры быў падвышаны да сана архіяпіскапа. Пасьля сьмерці Ўладзіслаа (Рыжы-Рыскага) Сабор АСП надаў архіяпіскапу Юрыю тытул Апостальскага адміністратара. Япархіі і асобныя прыходы АСП сёньня існуюць у шэрагу краін, але найбуйнейшыя ў Паўднёвай і Цэнтральнай Амэрыцы.

Архіяпіскап Юры адзін з заснавальнікаў на Бацькаўшчыне духоўнага супраціву маскоўскай рэлігійнай экспансіі. У 1993 г. ўпершыню пасьля амаль паўвекавога выгнаньня наведаў Беларусь. Затым прыяжджаў у родны край кожны год. Рабіў гэта 10 гадоў запар. З ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле ўладыкі на Бацькаўшчыне пачала дзейнічаць Беларуская Праваслаўная Народная Царква. Так, у 1994 годзе пачаліся багаслужбы ў менскай парафіі Сьвятой Афрасіні Полацкай, у 1995 г. выходзіць з друку першы нумар царкоўнага інфармацыйнага бюлетэню "Голас царквы беларускай". 1996 г. – пераход ва ўлоньне БПНЦ парафіі Сьвятога вялікапакутніка і лекара Панцеляймона зь Ліды. Пачатак дзейнасьці парафіі і адбудова старажытнага храму ў гонар Найсьвецейшай Маці Божай у Сёмкавым Гарадку. Адкрыцьцё парафіі ў старадаўняй Пакроўскай царкве вёскі Строчычы пад Менскам. 1997 г. – у нова збудаванай капліцы адчыняе дзьверы парафія Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Слоніме. 1999 г. – пачатак службы і будаўніцтва свайго храму ў парафіі Сьвятой Афрасіні Полацкай у пасёлку Пагранічны на Гарадзеншчыне. 2000 г. – утвараюцца царкоўныя суполкі ў Горадні і Зельве. 2002 г. – пачынае дзейнічаць парафія сьвятога Юр'я ў вёсцы Шчомысьліца Менскага раёну.

На жаль, сёньня бальшыня гэтых хрысьціянскіх беларускіх асяродкаў зьнішчаная ўладамі.

Апошні раз архіяпіскап Юры наведаў Беларусь у ліпені 2013 году, дзе акрамя сустрэч зь вернікамі браў удзел у працы VI зьезду беларусаў сьвету.

У кастрычніку 2014 адбыўся апошні архіпастырскі візіт архіяпіскапа Юрыя. Ён наведаў аднавернцаў з Беларускай Славянскай Праваслаўнай Царвы ў Аргенціне.

У 2003 годзе выйшла з друку кніга ўспамінаў і разважаньняў архіяпіскапа Юрыя "Мой крыж". У альманаху "Беларус" апублікаваныя шэраг ягоных апавяданьняў.

Архіяпіскап Юры займаў заўсёды актыўную грамадскую пазіцыю. Удзельнічаў у працы Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня, выбіраўся сябрам рады нью-ёркскага аддзелу гэтай арганізацыі.

Вечная памяць архіяпіскапу Юрыю. Няхай Госпад Бог супакоіць ягоную душу.

Спачуваньні родным і блізкім нябожчыка выказвае парафія сьятой Афрасіні Полацкай зь Менску Літоўская

***Айцец Леванід Акаловіч***

Выказваем глыбокі смутак з нагоды адыходу ў вечнасьць беларускага патрыёта, які для служэньня Бацькаўшчыне выбраў свой асаблівы шлях і цьвёрда ішоў па ім да канца жыцьця. Вечная яму памяць!

Прыносім свае спачуваньні родным сп. Рыжага, якія заўсёды былі побач з ім у беларускіх справах.

***Галоўная управа БАЗА***

# Юбілей знакамітай кніжкі для дзяцей




Сёлета споўнілася 150 гадоў з дня выхаду ў сьвет адной з самых шырока вядомых дзіцячых кнігаў – "Аліса ў краіне цудаў" (Alice's Adventures in Wonderland) англельскага пісьменьніка Люіса Кэрала. Казка перакладзена на больш за 170 моваў і стала любімай кніжкаю мільёнаў дзяцей па цэлым сьвеце. задачаю і кніга дайшла да дзіцячых сэрцаў. Вось усе гэтыя пераклады я мела магчымасьць паглядзець у адной залі, пабачыць, як афармленыя выданьні казкі ў розных краінах, як на кніжках адлюстраваны ўплывы розных культураў. Маленькая Аліса здолела абьяднаць дзетак у цэлым сьвеце.

Безумоўна, з нагоды юбілею паважны бібліяфільскі клюб у Нью-Ёрку – The Grolier Club, у сваім будынку пад нумарам 47 на 60-й вуліцы на Мангэтане адчыніў выставу перакладаў кнігі. Выстава пераканаўча сьведчыць пра надзвычайную папулярнасьць твора сярод дзяцей, незалежна ад іх нацыянальнасьці, колеру скуры і нават узросту.

Кожны пераклад мае ў сабе ўплывы той культуры і мовы, на якую перакладзены. Варта сказаць, што гэтая кніга надзвычай складаная для перакладу і да сёньня яшчэ не існуе адзінага прынцыпу перакладу твора. Літаральны пераклад амаль немагчымы, бо губляецца асаблівасьць гумару, гульні і нарэшце можа атрымацца зусім іншая Аліса. Таму кожны перакладчык мусіць адаптаваць казку да сваёй мовы, традыцыі, знайсьці адпаведныя словы і вобразы, каб сюжэт быў зразумелым ягонаму чытачу. Выглядае, што перакладчыкі выдатна справіліся з гэтай што для мяне найперш было цікава, ці згадваецца на выставе пра тое, што і беларусы перакладалі Кэрала. Адразу паглядзела на мапу, дзе былі пазначаныя краіны, што маюць пераклады. Пад нумарам 14 знайшла Беларусь. Прыемна было бачыць, што і назва краіны і слова "беларускі" пададзена правільна – Belarus, Belarusian, не было "Belarussian".

У нумары за 29 кастрычніка 2015 газэта Wall Street Journal зьмясьціла артыкул пра гэтую выставу, дзе гаворыцца таксама і пра беларускі пераклад, нават адзначаюцца ягоныя асаблівасьці. Гэтая згадка ў паважнай газэце, безумоўна, спрые папулярызацыі Беларусі і нашай культуры ў Амэрыцы. У поруч з нядаўняй навіною, што Нобелеўскую прэмію сёлета атрымала пісьменьніца з Беларусі, мае амэрыканскія знаёмыя шчыра віншавалі мяне з дасягненьнямі беларускай літаратуры і з нашым укладам у сусьветную культуру.

***Ганна Сурмач***

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА НА ВЫСТАВЕ

У амэрыканскім горадзе Нью Бранзвік, штат Нью Джэрзі, штогоду ў сярэдзіне сьнежня, каб належна адкрыць калядны сэзон, наладжваецца выстава нацыянальных ялінак. Паказ іх адбываецца ў будынку вэнгерскага культурнага цэнтру. У ваколіцах Нью Брансўіку жывуць беларусы, маюць свае цэрквы: адна імя Жыровіцкай Маці Божай у суседнім Гайленд Парку, а другая імя Еўфрасіньні Полацкай ў суседнім Саўт Рывэры. Прыхаджане гэтых цэркваў удзельнічаюць у выставе калядных ялінак, удэкароўваючы ялінку ў цудоўна выраблены з саломкі арнамэнты й калядныя сюжэты. Гадамі ўжо ініцыятар гэтага мерапрыемства – Сяргей Трыгубовіч, прыхаджанін царквы Жыровіцкай Маці Божай, што ў юрысдыкцыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

На сёлетнім калядным паказе стаяць дзесяць ялінак: амэрыканская, вэнгерская, беларуская, грэцкая, дацкая, італьянская, лаціна-амэрыканская, эстонская, японская й літоўская.


Сяргей Трыгубовіч з сынамі Лёвам і Калем і Надзя Запруднік

Каля кожнай ялінкі стаіць на падножцы дошка з тлумачальным тэкстам пра сьвятакавальныя традыцыі дадзенай нацыянальнасьці.

Канцэртную частку адкрыцьця выставы забясьпечылі вучні суботняй вэнгерскай школы выкананьнем вэнгерскіх калядак ды інсцэніроўкай мамэнтаў з нараджэньня Ісуса Хрыста.

***Янка Запруднік***

## Успамін пра Анатоля Белага – першага кіраўніка клюба «Спадчына»

У Менску адбылася прэзэнтацыя новага тома мемарыяльнага выданьня «Жыцьцё ў імя Бацькаўшчыны», прысьвечанага памяці кіраўніка культурна-асьветнага клюба «Спадчына» Анатоля Белага. Імпрэза прайшла ў сядзібе БНФ «Адраджэньне», прысутнічалі прадстаўнікі сям'і Белых, шматлікія сябры клюба і жыхары сталіцы, зацікаўленыя падзеямі ў культурным жыцьці краіны.

Сябры клюба «Спадчына», якія бралі слова ў памяць Анатоля Белага, адзначалі, што гэта другі том выданьня. Першы меў назву «І паўстала «Спадчына» (2014), у форме летапісу там адлюстраваны шлях, які быў пройдзены сябрамі клюба і яго кіраўніком па пуцявінах нацыянальнага Адраджэньня канца ХХ-га – пачатку ХХІ-га стагодьдзяў.

З успамінамі і словамі ўдзячнасьці гэтаму незвычайнаму і таленавітаму чалавеку, які шмат паўплываў на іх лёс і на іх стаўленьне да беларушчыны, выступалі мастакі А.Зіменка і У.Мелехаў, ветэраны клюба Я. Антанюк, Н. Сармант, А. Валахановіч, М. Несцярэўскі, М. Лавіцкі, пісьменнік В. Якавенка. Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка паведаміла, што ў іх ужо створаны асабовы фонд Анатоля Белага і хутка з ім змогуць знаёміцца дасьледчыкі.

Музычную праграму імпрэзы вяла сьпявачка Тацьцяна Грыневіч-Матафонава. Яна эмацыйна, з крапальным пачуцьцём і артыстызмам выканала шэраг знакамітых беларускіх патрыятычных песень, пачынаючы ад «Спадчыны» на верш Я.Купалы і знакамітай багдановічаўскай «Пагоні», да палянэза «Разьвітаньне з Радзімай» М.К. Агінскага. Гэтыя мэлёдыі і сьпевы ўсхвалявалі прысутных і нагадалі пра наш абавязак захоўваць памяць пра чалавека, які так шмат зрабіў для Айчыны і многім у сваім жыцьці ахвяраваў на карысьць справы пашырэньня беларускай культуры і мовы, ўмацаваньня гістарычнай памяці беларускага народу, збору і захаваньню яго мастацкіх каштоўнасьцяў.

Уражаньні ад новага выданьня і прэзэнтацыі кнігі можна праілюстраваць словамі дачкі Антоля Белага Сьвятланы, якая зазначыла: «Мяне вельмі кранула тая шчырасьць і любоў у адносінах да таты, якая прагучала ва ўспамінах, што зьмешчаны ў новай кнізе. Калі я чытала гэтыя радкі, то перада мной узьнікаў ягоны жывы вобраз. Я была вельмі ўсхваляваная, я плакала. Характар майго таты адлюстраваны ў гэтых успамінах вельмі дакладна. Я і ўся наша сям'я шчыра ўдзячныя сябрам «Спадчыны», усім тым, хто спрычыніўся да выданьня гэтай кнігі!»

Пад час прэзэнтацыі многія сябры клюба адзначалі, што наш абавязак перад памяцьцю першага кіраўніка «Спадчыны» – працягваць справу ўсяго жыцьця А. Белага, дапамагаць у захаваньні Музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах. Музэю патрабуецца і фінансавая падтрымка, і правядзеньне адпаведных рамонтных работ, і захады па прызнаньні яго мастацкай каштоўнасьці на афіцыйным узроўні.

Вынікам гэтай прэзэнтацыі стала тое, што сябры клюба «Спадчына» пастанавілі актывізаваць працу ў гэтым напрамку і больш грунтоўна ўдзельнічаць у працы Музэю, дапамагаць у зборы новых экспанатаў і прапагандзе яго калекцый сярод грамадзтва.

*Анатоль Мяльгуй*
*Менск*

## Вестка з Вільні

Рэдакцыя атрымала інфармацыю пра тое, што ў Вільні нарэшце завяршылася юрыдычнае разьбіральніцтва справы, якая была распачатая супроць шматгадовага старшыні Таварыства беларускай культуры Хведара Нюнькі па ініцыятыве часткі сяброў ТБК, якія абвінавачвалі сп. Нюньку ва злоўжываньнях ў адносінах да маёмасьці ТБК. Нядаўна сп. Нюнька, якому усё гэта каштавала шмат хваляваньняў і стрэсаў, атрымаў ліст з пракуратуры, дзе паведамляецца, што пераддудовае сьледства спыняецца ў сувязі з тым, што ў ягоных дзеяньнях не знойдзена прыкметаў злачыннай дзейнасьці.

# “Бацькаўшчына” абвяшчае конкурс працаў пра беларускае замежжа

Сёлета 10 верасьня Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" споўнілася 25 гадоў. Чвэрць стагодзьдзя Згуртаваньне працуе дзеля кансалідацыі беларусаў незалежна ад месца пражываньня на грунце любові да нашай супольнай гісторыі, культуры, роднай мовы. Дасягненьні беларусаў замежжа — неад'емная частка нашай супольнай гісторыі й сучаснасьці, нашай культуры. Яны вартыя вывучэньня й папулярызацыі. Справы й творы народжаных у Беларусі мастакоў, пісьменьнікаў, кампазытараў, палітыкаў, грамадзкіх дзеячаў зь звычайных беларусаў ва ўсе часы ўплывалі й працягваюць уплываць на фармаваньне ўяўленьняў пра беларускую нацыю ў сьвеце. А што самі жыхары сёньняшняй Беларусі ведаюць пра нашых замежных суайчыньнікаў?

***Каб разумець, якімі праз суродзічаў за мяжой нас бачыць сьвет, і з нагоды свайго юбілею Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс працаў, прысьвечаных гісторыі й сучаснасьці беларускага замежжа.***

Да разгляду прымаюцца арыгінальныя аўтарскія тэксты навуковага, навукова-папулярнага, публіцыстычнага характару. Яны могуць быць прысьвечаныя розным аспэктам жыцьця й дзейнасьці беларусаў у замежжы, у тым ліку:

- біяграфіям пісьменьнікаў, мастакоў, кампазытараў, палітыкаў, грамадзкіх і іншых дзеячаў, чыё жыцьцё і творчасьць зьвязаныя з замежжам;
- асэнсаваньню творчай спадчыны дзеячаў беларускага замежжа;
- гісторыі масавых эміграцый, перасяленьняў беларусаў па-за межы Беларусі;
- гісторыі або сучаснасьці беларускай прысутнасьці ў асобнай краіне;
- дзейнасьці беларускіх дзяржаўных прадстаўніцтваў на Захадзе: Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Цэнтральнай Рады;
- дзейнасьці асобных беларускіх арганізацый, суполак, калектываў, сродкаў масавай інфармацыі;
- сацыяльным, эканамічным, культурным аспектам існаваньня беларускага замежжа.

***У склад журы конкурсу ўваходзяць сябры Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына":***

- Натальля Гардзіенка, гісторык, намесьнік дырэктара БДАМЛМ,
- Лявон Юрэвіч, архівіст Нью-ёрскай публічнай бібліятэкі,
- др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМу,
- др. Янка Запруднік, сябра ўправы БІНіМу,
- Валеры Герасімаў, загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, намесьнік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Да ўдзелу запрашаюцца як прафэсійныя навукоўцы, гэтак і аматары, як сталыя дасьледчыкі, гэтак і пачаткоўцы зь Беларусі й замежжа.

Тэксты павінны быць раней не публікаваныя й напісаныя на беларускай мове.

Па выніках конкурсу пераможцы атрымаюць каштоўныя ўзнагароды, а найлепшыя працы ўдзельнікаў будуць апублікаваныя.

Памер тэкстаў да 1 аўтарскага аркуша (каля 40 тысячаў знакаў).

**Дасылаць працы трэба ў электронным выглядзе з пазнакай *"На конкурс"* на адрасу: zbsb.minsk@gmail.com да 1 студзеня 2016 г.**

***Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***

## Віншаваньне ад Галоўнай управы БАЗА

Завяршаецца 2015 год, які прынёс шмат новага ў наша грамадзкае беларускае жыцьцё і ў асабістыя лёсы нашых суайчыньнікаў. Былі гэта добрыя і благія навіны, але, ўсе яны незваротна ўпісаліся ў тканку нашага лёсу, які тчэцца намі самімі і тымі сіламі, якія ёсьць над намі.

З падзякаю году, адплываючаму ў вечнасьць, скіруем нашыя думкі на будучыню. Віншуем усіх вас – сяброў БАЗА і усіх сяброў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Амэрыцы і іншых краінах, нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне з надыходам новага 2016 году. Будзем сустракаць яго з надзеяю, што будзе не горшы за папярэдні, а лепш, каб быў больш радасным, плённым, памножыў добрыя набыткі нашай беларускай нацыі і кожнага з нас асабіста. Ажыцьцяўленьне нашых аптымістычных надзеяў пераважна будзе залежаць ад таго, што зробім дзеля гэтага мы самі. Трэба ўсім нам быць больш адказнымі, канструктыўнымі, арганізаванымі ў сваіх дзеяньнях і тады яны прынясуць добрыя вынікі.

Шмат хто з нашых суродзічаў пачне сьвяткаваць напрыканцы году чароўнае Сьвята Калядаў – Раства Хрыстова. Гэта будуць не толькі каталікі, але і тыя праваслаўныя беларусы, што жывуць у заходнім сьвеце і разам з ягонымі жыхарамі славяць Хрыстова Нараджэньне 25 сьнежня, а потым працягваюць сьвяткаваць 7 студзеня. Такая асаблівасьць ужо сталася рэальнасьцю. Дык віншуем усіх вас з найвялікшым Сьвятам – Нараджэньнем Хрыста-Збаўцы!

Жадаем усім вам, дарагія сябры, добрага здароўя, шчасьлівага прыватнага жыцьця, плёну ў вашых добрых справах і ўчынках, сьвяточнага настрою й аптымістычнай веры ў лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны – Беларусі.

*Жыве Беларусь!*

## Паведамленьне

**Сп. Анатоль Занковіч выказвае жаданьне зкантактавацца з кандыдам былой Беларускай афіцэрскай школы ў Менску, эвакуяванай у Нямеччыну ў чэрвені 1944 году.**

**Сп. Занковіч падае адрас для кантактаў:**

**A. Sankovitch**
**91 Central Park W # 3**
**New York, NY 10023-4609**

**Шаноўная рэдакцыя газэты "Беларус"! У 616-м нумары была дапушчана памылка, датычная Рады БНР. У календары памятных датаў на кастрычнік 2015, адносна Другой Усебеларускай Канферэнцыі 1925 года ў Бэрліне напісана, што на ёй была "прынятая заява аб роспуску Рады й Ураду БНР". Гэта памылка. Рада ніколі распушчана не была. Быў распушчаны Урад БНР. Заява пра роспуск Урада БНР (ня Рады) была падпісана трыма міністрамі, якія яшчэ да канферэнцыі склалі з сябе паўнамоцтвы і ня мелі юрыдычнай сілы на падобныя пастановы.**

**Падрабязнасьці можна прачытаць у Энцыкляпедыі Гісторыі Беларусі. Калі ласка, тэрмінова надрукуйце папраўку ў кастрычніцкім нумары.**

**З павагай,**

***Алеся Сёмуха***
*Сакратар Рады БНР*

## Спачуваньне

Сёлета пад час паніхіды ў памяць герояў Слуцкага збройнага чыну называлася і імя Леаніда Капыткі, які заўчасна адышоў з жыцьця ў Беларусі некалькі дзён перад тым. Ягонае імя з поўным правам можна паставіць побач з беларускімі патрыётамі, можа і не так гучна, але годна іду ён па жыцьці, як сапраўдны беларус, які ганарыўся сваімі каранямі, які выхаваў свайго сына Сяргея нацыянальна сьведамым чалавекам. Сяргей Капытка і ўся ягоная дружная сямейка – актыўныя ўдзельнікі беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку. Спачуваем ім з нагоды гэтай незваротнай страты. Мы таксама памятаем сп. Леаніда, які гасьцяваў у сына і заўсёды прыходзіў на імпрэзы ў наш Беларускі цэнтр, знаёміўся, цікавіўся беларускім жыцьцём у Амэрыцы.

Сьветлая і вечная памяць сп. Леаніду Капытку!

# Віншаваньні

**У жыцьці беларускай грамады ў Нью-Ёрку адбылося шмат прыемных прыватных падзеяў, якія выклікаюць грамадзкую цікавасьць і цешаць усіх нас. Праз нашу газэту дасылаем віншаваньні з гэтай нагоды.**

***7 сьнежня сёлета азначыла свой слаўны жыцьцёвы юбілей сп. Тацьцяна Красоўская*** – старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА, сябра Галоўнай управы БАЗА, старэйшая сястра Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага. ***Віншуем сп. Тацьцяну ад імя ўсіх гэтых арганізацый і ад Рэдакцыі газэты "Беларус",*** рассылку якой для ўсіх нас забясьпечвае таксама наша юбілярка. ***Зычым ёй добрага здароўя, моцных жыцьцёвых сілаў, каб і надалей так актыўна магла працаваць дзеля грамадзкіх патрэбаў, дзеля таго, каб беларуская актыўнасьць у Амэрыцы не згасала, а набывала яшчэ больш шырокі размах. Шчасьлівага, плённага, сьветлага далейшага шляху Вам, сп. Тацьцяна!***





***Віншаваньні і найлепшыя пажаданьні шлем таксама нашай маладой і вельмі актыўнай сяброўцы – Сьвятлане Казачок.*** Яна нядаўна адсьвяткавала свае першыя шчасьлівыя 20 гадоў. ***Шмат разоў табе, Сьвятланка, сьвяткаваць чарговыя дваццаткі. Шчасьлівага і поўнавартаснага жыцьця на будучыню зычаць табе ўсе твае беларускія сябры і газэта "Беларус".***



***Радасную навіну маем ад шматгадовай сяброўкі БАЗА Гражыны Залеўскай. У яе нарадзілася цудоўная дачушка, і мы віншуем бацькоў і новanaроджаную беларусачку. Жадаем маладой сямейцы шчасьлівага сумеснага доўгага і пасьпяховага жыцьця.*** На фота





бацькі хрысьцяць сваё першае дзіцятка.



***Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА віншуе сяброўку Управы і актыўную ўдзельніцу беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку Алену Рыдзеўскую з вялікім сямейным сьвятам – нараджэньнем першынца-сыночка. Сардэчна жадаем немаўлятку доўгага і шчасьлівага жыцьця на гэтай зямлі. А ягоным бацькам – шмат радасьці ад выкананьня сьвятой бацькоўскай місіі.***



***Сяброўка БАЗА Наташа Федарэнка папрасіла зьмясьціць у "Беларусе" віншаваньне з 50-гадовым юбілеем яе бацьку Сяргею Федарэнку,*** які жыве ў Беларусі і чытае нашу газэту.

***Дарагі тата!***

***Віншую цябе з залатым юбілеем! Няхай усе наступныя гады твайго жыцьця будуць толькі залатыя! Здароўя, доўгіх гадоў жыцьця, сямейнага шчасьця! Дзякуй табе за тое, што ты ёсьць – самы лепшы тата ў сьвеце!***

*Вярнуўшыся ў родную хату,*
*На родны прысеўшы парог,*
*Ты скажаш:*
*"Дзень добры, мой тата!*
*Падумаць, прайшло столькі год..."*
*Маршчыністы твар усміхнецца*
*І скажа: "Мінаюць гады,*
*Але застаюцца навечна*
*Святымі – сям'я, дом, бацькі!"*
*Вярнуўшыся ў родную хату,*
*З сям'ёй за святочным сталом,*
*Сустрэўшы з аплаткай Каляды,*
*Успомніш дзяцінства сваё...*
*І рэха малітвы сумеснай*
*Гучыць, як бацькоўскі наказ:*
*"Вас можа раскідаць па свеце,*
*Але прылятайце да нас!"*
*Вярнуўшыся ў родную хату,*
*Адкуль б'е крыніца твая,*
*Цяпер дзе адно маці з татам*
*Стаяць ля пустога двара*
*І вуліцай зноў выглядаюць,*
*Калі ў дом вярнуцца сыны...*
*А дзеці лісты дасылаюць:*
*"Вам дзякуй,*
*што ў свеце ёсць Вы!"*
*І робішся зноўку багатым*
*Ад шчырых усмешак і слоў,*
*Вярнуўшыся ў родную хату –*
*Да родных, любімых бацькоў!!!*

# Сьв. пам. МІКАЛАЙ КАСЬЦЮК

## *(Жыровічы, 18-02-1928 – Саўт Рывэр, Н. Дж, 30-09-2015)*

# РАЗЬВІТАНЬНЕ З ЖЫЦЬЦЁМ ПАД ГУКІ РОДНАЕ ПЕСЬНІ



Колю пахавалі ў цёплы восеньскі дзень – у згодзе зь ягонай лагоднай натурай. Сонечнае сьвятло моўчкі дакраналася да вянкоў з жывых кветак, што абнялі магілу; да маўклівых постацяў сям'і й сяброў; да навакольных крыжоў і зялёнай яшчэ травы. На кароткі момант суняліся ўсплёскі "жыцейскага мора" для разьвітальнікаў, і назаўсёды – для нябожчыка. У яго адбылася вехавая перамена цялеснага ў духовае, а тымчасовага ў вечнае. Вечна памяць Мікалаю Касьцюку.

На гэтым могільніку Коля бываў мноства разоў за сваё жыцьцё – найбольш з нагоды провадаў на той сьвет сяброў і знаёмых, зь якімі будаваў у 70-х гадах недалёкую ад гэтага месца царкву сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Прыходзіў ён сюды таксама наведаць магілку маці, або проста так – каб даць адпачынак думкам. Бо нішто так не супакойвае калатнечу іх, як сузіраньне могільніка.

А на гэтым пясчаным сьвятаеўфрасіньнеўскім узгорку заўсёды ціха. З двух бакоў яго ўзвысіліся ў сіняе неба вялікія дрэвы; з аднаго боку аднасямейны дом, а праз вуліцу шырокай паласой спускаюцца ўніз гарадзкія могілкі, за якімі распасьцерлася глыбокая панараму далёкіх селішчаў. Тут зрок сягае далёка, а думка засяроджваецца на памяці пра тых, хто быў перад табою й адыйшоў у вечнасьць.

Апошнімі гадамі Колі цяжка давалася бываць тут, бо злачынны інсульт прыпыніў ягоную хаду, а пасьля прыкаваў да ложка. Але духам ён ня паў, безь ніякіх нараканьняў змагаўся зь нямогласьцю, трываў і не паддаваўся хваробе. Яму спрыялі ўва ўсім гэтым ягонай лагода характару ды клапатліва цярплівая жонка Рэня. Ён чытаў перадаваныя яму газэты "Наша Ніва" й "Наша Слова", цікавіўся падзеямі ў Беларусі ды ў мясцовым царкоўным і грамадзкім жыцьці. Коля азнаямляў дзьвюх мэдсясьцёр-амэрыканак, якія даглядалі яго ўдома, зь Беларусьсю. Адна зь іх, калі прыяжджала раніцай і адчыняла дзьверы ягонага пакою, на ўвесь свой бадзёры голас віталася зь ім: Good morning, Mister Kostsiuk from BELARUS!

Коля любіў слухаць песьні, любіў сьпяваць. У дачыненьні да яго прыгадваюцца словы з цудоўнага нарысу Максіма Багдановіча "Апокрыф", у якім Хрыстос, ходзячы па Беларусі, пытаецца ў мастака: "Калі пяюць песьні ў вас?" А той адказвае: "Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і на вясельлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і пры працы, і на вайну йдучы, і ва ўсякай іншай прыгодзе".

Абставіны склаліся так, што родная песьня прагучэла й пры Колевым адыходзе з гэтага сьвету. Песьняй "Люблю наш край" рашылі падтрымаць бацькаў кволы стан дочкі Ірэна й Ліля, стоячы пры ягоным ложку. Ціха загучалі словы: "Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз пазнала шчасьце, сьлязу нядолі праліла..." Бацька, заплюшчыўшы вочы, з усьмешкай слухаў гукі песьні, якую сам ці раз сьпяваў. А калі сьпеў дабег да канца, ён ужо ня дыхаў.

Паховіны Мікалая Касьцюка, беларуса-патрыёта, які пакінуў сьлед па сабе ў нашчадках ды ў выніках працы на рэлігійна-грамадзкай ніве, былі людныя, урачыстыя й памятныя, са шчырымі спачуваньнямі жонцы Рэні, дочкам Ірэне й Лілі ды ўсім іхным родным.

***Янка Запруднік***



## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| **Юля Андрусішын** | **$ 50** |
| **Тамара Белямук** *у памяць мужа Міхася Белямука* | **$ 100** |
| **Марыя і Кастусь Варабей** | **$ 40** |
| **Яраслаў Груца** | **$ 15** |
| **Марыя Демковіч** | **$ 50** |
| **Вітаўт Кіпель з сямьёй** | **$ 1,000** |
| **Рэня Касьцюк** *у памяць Мікалая Касьцюка* | **$ 100** |
| **Дзіма Кавалёў** | **$ 50** |
| **Алла Каратkевіч** | **$ 5** |
| **Тамара Стагановіч-Кольба** | **$ 100** |
| **Юры Лапіцкі** | **$ 50** |
| **Дзіяна Маракова** | **$ 5** |
| **Арцём Паўлюкевіч** | **$ 15** |
| **Яўген Папко** | **$ 50** |
| **Анатоль Занковіч** | **$ 150** |

***Вельмі дзякуем усім ахвярадаўцам!***


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае:**
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
Паштовы адрас:
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025 USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*

*Грашовыя чэкі выпісваць на імя:* ***BIELARUS Newspaper*** *і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*

***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***




***Printed in USA***